НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Тэма дня*

# Энергетычны крызіс на Беларусі: хто ў ім павінен?

## Роздум народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Новіка

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Дарэчы, праблема з вадкім палівам у нашай рэспубліцы ўзнікла не раптоўна, яна мае доўгую гісторыю і рэзка абвастрылася яшчэ вясной гэтага года, і пры адкрыцці 12-й сесіі Вярхоўнага Савета дэпутаты ад апазіцыі спрабавалі ўключыць у парадак дня пытанне "Аб сітуацыі з палівам", але іх прапанова набрала толькі 157 галасоў. Адметна, што не прагаласавалі за ўключэнне гэтага пытання ў парадак дня сесіі галоўным чынам тыя дэпутаты, якія прадстаўляюць пракамуністычнае ўрадавае лобі ў Вярхоўным Савеце. Напрыклад, Г.Казлоў (кіраўнік урадавага лобі ў Вярхоўным Савеце), В.Кебіч (Старшыня Савета Міністраў), А.Мардашоў (былы дарадчык В.Кебіча, зараз старшыня Камітэта па нафце і хіміі пры Савеце Міністраў), М.Скарынін (галоўны дарадчык В. Кебіча) і многія іншыя дэпутаты, якія часта на словах дэманструюць сваю заклапочанасць эканамічным станам беларускай эканомікі, а на самай справе спрыяюць эканамічнаму банкруцтву беларускай дзяржавы. Безумоўна, для гэтых высокапастаўленых дэпутатаў паліўнага крызісу не існуе, бо на запраўках у саўмінаўскіх гаражах заўсёды бензін ёсць. Але, на маю думку, не гэта было галоўнай прычынай блакіравання разгляду на сесіі паліўнага пытання, хутчэй за ўсё, шэраг высокапастаўленых дзяржаўных асоб проста не хацелі "нафтавых разборак" у Вярхоўным Савеце, якія маглі б раскрыць стратэгічныя пралікі ўрада ў эканамічнай, энергетычнай, фінансава-крэдытнай і грашовай палітыцы, а магчыма, і факты злоўжыванняў і карупцыі ў сферы "нафтавага бізнесу".

Акрамя пралікаў у вырашэнні паліўных праблем, адсутнасць дзяржаўнага падыходу да грашовай палітыкі паглыбляе эканамічны крызіс, пашырае магчымасці ценявой эканомікі і садзейнічае разбурэнню яшчэ кволай беларускай дзяржаўнасці. Ні купоны, ні талоны, ні кніжкі пакупнікоў, ні штампы аб прапісцы, ні законы аб абароне спажывецкага рынку, ніякія іншыя вынаходніцтвы нашых урадавых дзеячаў не заменяць паўнацэнных беларускіх грошай, абарачэнне якіх павінен узяць пад строгі кантроль Нацыянальны банк. Няма дзяржаў у свеце без уласных грошай. Нацыянальныя грошы — гэта абавязковы элемент абароны эканамічных інтарэсаў дзяржавы. Адсутнасць уласных паўнацэнных грошай вымушае людзей шукаць другі тавар-эквівалент для ажыццяўлення гандлёвых разлікаў. Сёння ім стаў бензін, бо накапліваць разліковыя білеты Нацбанка Беларусі няма сэнсу, іх з'ядае інфляцыя — гэты ненаедлівы падатак на ўсё наша грамадства. Бензін жа заўсёды будзе ў цане... І ўсё ж выйсце з паліўнага крызісу ёсць. Найперш трэба зняць усе абмежаванні на ўвоз энергарэсурсаў у Беларусь. Усе спажыўцы паліва — і гаспадары саўмінаўскіх "Волг", і калгасных УАЗікаў, і пажарных машын, і прыватных аўтамабіляў — павінны набываць яго на свабодным рынку, па адпаведных цэнах. Цэны на паліва ў краінах-партнёрах — маюцца на ўвазе краіны СНД — павінны быць гарманічнымі, інакш у гэтых краінах будуць розныя выдаткі працы пры вытворчасці аднолькавай прадукцыі, а значыць, і розная канкурэнтаздольнасць. Розныя цэны на паліва ў краінах-партнёрах заўсёды будуць спакушаць дзелавых людзей зарабіць грошы на перакосах цэн. Напрыклад, ва ўсіх краінах ЕЭС цана 1 літра бензіну прыблізна вагаецца каля 1 долара ЗША.

Звернемся да прыкладу краін Заходняй Еўропы. Большасць з іх пасля нафтавага шоку 1973 года ўсвядоміла, што эпоха танных паліўных рэсурсаў мінула, а энергетычны эгаізм багатых на энергарэсурсы краін ні да чаго добрага не прывядзе. Таму бедныя на энергарэсурсы заходнееўрапейскія дзяржавы дамовіліся праводзіць узгодненую энергетычную і эканамічную палітыку для таго, каб захаваць сваю эканамічную самастойнасць і стабільнасць і разам супрацьстаяць нафтавым манапалістам. Гэта дамоўленасць яскрава рэалізавана ў форме Еўрапейскай эканамічнай супольнасці.

Ёсць чаму павучыцца зараз і ў бліжэйшых да нас краінах былога Савета эканамічнай узаемадапамогі і ў саюзных рэспубліках. Возьмем нашу бліжэйшую суседку — Латвію, якая не мае ні сваёй нафты, ні нафтаперапрацоўчых заводаў. Па-першае, зараз там праблем з бензінам і дызельным палівам не існуе. У гарадах, пасёлках і ўздоўж аўтастрад круглыя суткі працуе вялікая колькасць аўтазаправак. Многія з іх нядаўна пабудаваны і адпавядаюць еўрапейскім стандартам. Па-другое, у выніку канкурэнцыі аўтазаправак і пастаўшчыкоў паліва цэны на яго зніжаюцца. Напрыклад, за другі квартал гэтага года кошт бензіну там зменшыўся на 30%. 1 літр бензіну Аи-93 у пераводзе на амерыканскі долар каштуе зараз 0,22 долара ЗША, або 0,14 лата (1 лат = 1,53 долара ЗША). На сярэднямесячную зарплату, якая зараз складае ў Латвіі 50—60 латаў(75—90 долараў ЗША), можна купіць каля 400 літраў бензіну. Заўважу пры гэтым, што вам будуць рады на аўтазапраўцы, вам не трэба выходзіць з аўтамабіля, і вас ветліва абслужаць, былі б толькі грошы. Мабыць, ёсць сэнс сказаць пры гэтым, што, згодна з данымі Латвійскага дзяржаўнага камітэта па статыстыцы, у першым квартале 1993 года з Латвіі было экспартавана каля 300 тысяч тон вадкага паліва. Дзякуючы прадуманай дзяржаўнай палітыцы, якая спрыяе прыцягненню энергетычных рэсурсаў, Латвія вырашыла свае паліўныя праблемы і нават займаецца рээкспартам паліва. Па пытанню рээкспарту можна асобна паразважаць, але факт вырашэння паліўных праблем застаецца фактам. А яшчэ год назад з Беларусі ў Латвію трэба было ехаць са сваім бензінам, а зараз наадварот.

У Эстоніі таксама няма праблем з бензінам, хаця сваіх нафтавых радовішчаў і нафтаперапрацоўчых заводаў там таксама няма. 1 літр бензіну Аи-93 каштуе там 3,2—3,4 эстонскай кроны (1 эстонская крона = 0,07 долара ЗША). Сярэднямесячная зарплата складае каля тысячы крон. Пры гэтым можна адзначыць, што 1 кг хлеба каштуе 2,2—3,5 кроны, 1 кг свіной выразкі — 28—30 крон, 0,5 л гарэлкі — 23—25 крон.

Няма праблем з бензінам і ў іншых былых сацыялістычных краінах, якія ўзялі цвёрды курс на правядзенне рыначных эканамічных рэформ: Польшчы, Славакіі, Чэхіі, Венгрыі, не гаворачы пра такія высокаразвітыя краіны, як Германія, Францыя, Італія, Аўстрыя, Швейцарыя, якія практычна не маюць сваіх радовішчаў нафты.

Само сабой узнікае пытанне: чаму ў суседніх з Беларуссю дзяржавах, якія не маюць ні ўласнай нафты, ні нават нафтаперапрацоўчых заводаў, няма праблем з бензінам? Чаму, напрыклад, у той час, калі ў Латвіі цана на бензін паніжаецца, у Беларусі яна павышаецца? У другім квартале гэтага года ў Латвіі бензін стаў таннейшы на 30%, а ў Беларусі падаражаў больш чым на 100%.

Даведка. У студзені 1992 года 1 літр бензіну Аи-93 у Беларусі каштаваў 1,35 рубля, а ў жніўні 1993 года рознічная дзяржаўная цана за літр складае ўжо 150 рублёў. За паўтара года рост рознічнай дзяржаўнай цаны на бензін павысіўся больш чым у 100 разоў. Пры гэтым многія ўладальнікі аўтатранспарту сёння ўжо шукаюць месца, дзе можна купіць бензін нават за 400—700 рублёў за літр. Паблізу аўтазаправак заўсёды ёсць featured рознага роду "дзелавыя людзі", якія прапануюць за 20 долараў дваццацілітровую каністру бензіну невядомай якасці. Такі кошт бензіну ў Заходняй Еўропе, але там сярэднямесячная зарплата дазваляе не толькі набыць неабходную колькасць бензіну, але нават купіць даволі прыстойны ўжываны аўтамабіль. Для параўнання: у ЗША 1 літр бензіну каштуе 0,25—0,30 долара. Сярэднямесячная зарплата, калі можна прымяніць гэты тэрмін для Амерыкі, вагаецца паміж 1,5—2,5 тысячы долараў.

Падсумоўваючы невялікі аналіз сітуацыі з палівам у Беларусі і параўноўваючы яе з сітуацыяй у суседніх постсацыялістычных краінах, можна адназначна сказаць, што менавіта бесперспектыўная дзяржаўная палітыка Беларусі ў сферы эканамічных рэформ, энергазабеспячэння і энергазберажэння прывяла Беларусь да вострага энергетычнага крызісу. Гэта палітыка парадзіла мафіёзныя структуры, якія дзякуючы, магчыма, спланаванаму энергетычнаму і плацежнаму крызісу робяць грошы з паветра і якія хутка будуць дыктаваць не толькі парадак каля аўтазаправак і ўстанаўліваць курс беларускай грашовай адзінкі на Камароўскім рынку, але і ў сферы дзяржаўнай палітыкі будуць дыктаваць сваю волю.

У хуткім часе можа сабрацца нечарговая сесія Вярхоўнага Савета. Лічу, што галоўным пытаннем парадку дня гэтай сесіі павінна стаць абмеркаванне эканамічнай, энергетычнай, фінансава-крэдытнай і грашовай палітыкі ў Беларусі. Вярхоўнаму Савету таксама ў рэшце рэшт трэба даць ацэнку некампетэнтным дзеянням урада і прыняць меры для фарміравання ўмоў выхаду з эканамічнага крызісу.

*SOS!*

## Ботанический сад просит защиты от вандалов

Порезанная пленка, разбитые стекла теплиц, вырванные с корнем кусты и деревца, сожженные бытовки, а вместе с ними и весь инвентарь, — словно Мамай, обрушился на Центральный Ботанический сад столицы. Это не знающие куда себя деть подростки и взрослые совершают подобные набеги. А ведь в саду есть цветы и растения, за которые платили золотом, чтобы их приобрести. Безжалостно топчущий природу — разбойник вдвойне, ведь она беззащитна, как дитя. Раньше охраняла сад милиция, но теперь на подобную охрану не выделяют средств. Работники сада не сидят без дела и деньги сами зарабатывают, выращивают прекрасные редкие цветы. Но вырученных за них 15 миллионов в год не хватает на водоснабжение, электроэнергию, ремонтно-строительные работы, оранжерейно-парниковые комплексы, которые дорожают безмерно. А еще надо платить зарплату. К стыду сказать, рабочие, день мокнущие под дождем и зябнущие на ветру, "парящиеся" в теплице, получают всего 9 тысяч рублей. Нет спецодежды, добита техника, а новую купить не за что. В филиале Центрального Ботанического сада, который находится в Ганцевичах, вообще угнали трактор, украли все горючее. Вот и приходится администрации прибегать к помощи военных, которые ставят в местах проломленного ограждения "путанку", а проще — капкан для вора.

**Евгений МАКСАЙ, рабочий Минского тракторного завода.**

*Беларусь мая родная...*

Перад выраем.

Фота Анатоля ШАРОВА.

*Большое спасибо!*

## Всем, кто неравнодушен к чужой беде

**Как вы помните, буквально в среду мы опубликовали обращение исполкома Житковичского районного Совета народных депутатов к читателям нашей газеты с просьбой оказать материальную помощь населению этого района, пострадавшему от стихийного бедствия.**

И вот вчера в редакции раздался звонок из Житковичей. Нас попросили поблагодарить через газету Белпромстройбанк (г.Минск) и СУ N 139 (г.Гомель), которые первыми откликнулись на призыв о помощи и соответственно перечислили 4,5 млн. и 1 млн. рублей на специально открытый счет. Эти средства уже задействованы в виде материальных выплат наиболее пострадавшим в результате наводнения людям, на ремонт домов, приобретение картофеля, овощей...

Редакция присоединяется к словам благодарности и еще раз напоминает для всех неравнодушных к чужой беде людям счет, на который можно перечислить средства: 000141509 в Житковичском отделении Агропромбанка с указанием "Потерпевшим от стихийного бедствия".

*Факт*

## Коласовский заповедник расширяет границы

**Удовлетворено ходатайство администрации Литературного музея Якуба Коласа о расширении границ Коласовского заповедника. Сделано это ради сохранения мемориальных мест, связанных с жизнью и деятельностью белорусского поэта.**

В состав заповедника теперь официально будет входить почти 630 гектаров земли колхозов им. Мичурина, им. Пушкина и Окинчицкого лесничества. Добавляются сюда и 86 гектаров между дорогой Столбцы—Николаевщина и рекой Неман, которые принадлежат колхозу "Красный Октябрь".

**Маргарита БОРОЗДИНА, БелаПАН.**

*Репортер узнал*

## "Стратегия приватизации"...

**Как удалось узнать корреспонденту БелаПАН, Комитет по управлению государственным имуществом при Совете Министров Беларуси заключил договор с одной из крупнейших в мире международной консалтинговой фирмой с целью выполнения совместного проекта "Широкая стратегия приватизации и концепция маркетинга в Республике Беларусь".**

Данный проект призван, в частности, внести существенный вклад в разработку комплексных подходов к программам приватизации с учетом зарубежного опыта.

Необходимая составная часть для создания подобных программ — наличие базы необходимых данных. Поэтому планируется привлечение к разработке проекта специалистов Госкомстата, Госэкономплана, Госимущества.

**Ирина ЛЕВШИНА.**

## Тэлефануйце, каму дрэнна!

**Цэнтр пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі "Золак" стварыў у Заводскім раёне сталіцы кабінет псіхалагічнай дапамогі.**

Ён адчыніў дзверы ўсім жадаючым, хто не можа вырашыць свае праблемы з бацькамі, сябрамі, настаўнікамі. Гаспадыні ўтульнай гасцёўні Алена Шамшур і Надзея Казакова гарантуюць поўную ананімнасць і дапамогу. Яны добра ведаюць свой крымінагенны раён Чыжоўку, маюць вопыт педагагічнай работы і чулыя сэрцы. Звязацца з імі можна па "тэлефоне даверу" з 12 да 17 гадзін: 41-17-29. Адрас кабінета: вул. Ташкенцкая, 26, корп. 3, пакой 46.

*Криминальная хроника*

## Участились нападения на таксистов

**За последний месяц в Минске участились нападения на водителей таксомоторов.**

В милицию обратился водитель 3-го таксопарка Сергей П. Около 12 часов ночи двое молодых людей в качестве оплаты проезда предложили "отведать" содержимое баллончика со слезоточивым газом. Август месяц принес с собой уже три таких случая. Известно, что в них приняли участие разные люди.

**Виталий ЧУЯСОВ.**

## Расплата на месте

**Житель города Минска К. решил "отовариться" картофелем на чужом приусадебном участке.**

Он не знал, что участок охраняется владельцами. Словом, вора поймали на месте преступления. Незадачливого любителя картофеля отпустили тут же, правда, в чем мать родила. Через неделю подобное произошло на этом же участке и с минчанкой Р.

**Николай ГРИГОРОВИЧ, РИД.**

## Булку с маком захотели?

**Наркомания, которая в последние годы получает все большее распространение на территории Беларуси, не обошла и Пружанский район.**

Сейчас на учете в наркологическом кабинете Пружанской районной больницы пять жителей города, двое из которых раньше были осуждены за преступления, связанные с наркоманией. Однако несмотря на штраф за выращивание наркотической растительности, а он сейчас достигает одной минимальной зарплаты, высеивание, в частности, растительного мака продолжается. Только за прошлый месяц за незаконный его посев было привлечено к административной ответственности более 50 жителей района.

**Галина КОЛЕДА.**

*Шчырая размова*

# Не чакай, калі прыйдуць па цябе

## На пытанні чытачоў аб праблемах нацыянальнай бяспекі і знешнепалітычнай дзейнасці адказвае намеснік галоўнага рэдактара "Народнай газеты", дырэктар праграмы Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў Іван МАКАЛОВІЧ.

**(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)**

**Пытанне:**

**— Ці не маглі б вы выкласці свае погляды на канцэпцыю нацыянальнай бяспекі? Хацелася б пачуць вашы меркаванні аб пагрозах, якія падпільноўваюць наша грамадства.**

**— Чаму многія аўтары "Народнай газеты" выступаюць супраць ваеннага саюза з Расіяй? Няўжо ім не зразумела, што сама Беларусь без Расіі адстаяць сваю незалежнасць не зможа?**

**Адказ:**

— Я лічу, што самая вялікая небяспека для нашага народа зыходзіць ад сённяшняга парламента і цяперашняга ўрада.

Як толькі ў нас загаварылі пра рынак, я пісаў: не дай Божа, калі да яго павядзе наменклатура... Цяпер я кажу: не дай Божа, калі цяперашні парламент і ўрад пратрымаюцца яшчэ год. Гэта можа прывесці да нацыянальнай катастрофы.

Чаму я так стаўлю пытанне? А вось давайце спакойна, без эмоцый, цвяроза паглядзім на перспектыву.

Чарнобыль. Пракуратура Украіны закончыла расследаванне атамнай трагедыі. Пад ціскам грамадскасці названы некаторыя факты. Ужо ў першыя гадзіны кіраўніцтва рэспублікі атрымала дакладную інфармацыю аб тым, што здарылася. Але яно хлусіла народу. Сваіх дзетак многія вывезлі далей ад атамнага зарыва, а чужых вывелі на дэманстрацыю. Хоць ім далажылі, што радыяцыйны фон перавышае нармальны ў 100 разоў. А вада ў Кіеўскім сховішчы, адкуль яна паступае ў гарадскі водапravод, мае ў 5 тысяч разоў большы радыяцыйны фон. Сталіца Украіны ператварылася ў вельмі небяспечны рэнтгенакабінет, у якім жывыя істоты прыгавораны да пакутлівага вымірання.

Калі ўлічыць, што на Беларусь выпала дзве трэці чарнобыльскага попелу, дык няцяжка здагадацца, якое пекла было тут.

Пад "мудрым кіраўніцтвам" начальства наша нацыя пастаўлена на грань выжывання. Што нас можа выратаваць? Японскі вопыт красамоўна даказвае: толькі чыстае паветра, чыстыя і высокакаларыйныя прадукты, эфектыўныя лячэнне і адпачынак. Што нам прапаноўвае па гэтых накірунках кіраўніцтва — урад і дэпутаты, якія клянуцца, што яны турбуюцца аб народзе.

Чыстае паветра. Рыга займае плошчу ў два разы большую, чым Мінск, насельніцтва яе ў два разы меншае. Такім чынам, там зялёных насаджэнняў у разліку на чалавека ў чатыры разы болей. Тым не менш летась рыжскія ўлады прынялі пастанову, якая істотна стрымлівае рост гарадскога насельніцтва за кошт пераезду з іншых месцаў. Прычына? Усім не хопіць чыстага паветра.

У Мінску, які ўжо пакутуе ад загазаванасці, праблема азелянення знаходзіцца на другім плане. Вучоныя б'юць трывогу, што ў нас не засталося калодзежаў з чыстай крынічнай вадой. Грунтавыя "рэкі" загаджаны хіміяй на дзесяткі метраў у глыбіню.

Наконт прадуктаў. Тое, што многія з іх моцна затручаны радыяцыяй і нітратамі, агульнавядома. Гэта ўжо мала каго хвалюе. Турбуе іншае: дзе іх здабыць? І за што? Ці кожная сям'я можа купіць дзіцяці апельсін за тысячу рублёў? Яблык за пяцьсот? Улады нібы спецыяльна вырашылі пасля чарнобыльскага ўдару стукнуць беларуса яшчэ і касмічнымі цэнамі.

Адпачынак. Пуцёўка ў санаторый — сто тысяч рублёў. Дарога на поўдзень — тысячы. Ды з сабой грошы патрэбны. Так што знаходжанне ў санаторыі абыдзецца дзесьці ў 200 тысяч рублёў. І гэта пры зарплаце 30—35 тысяч. Хто ў яго паедзе?

Пра лячэнне наогул няма чаго гаварыць.

І ўсё гэта пры катастрафічна слабым здароўі нашага народа. Вучоныя свету, як паведамляе друк, вынайшлі каэфіцыент жыццястойкасці нацыі. Ён вызначаецца па пяцібальнай сістэме. Адзінка — гэта смяротны прыгавор народу, які абскарджанню ўжо не падлягае. Такую адзнаку мае краіна Буркіна-Фасо (былая Верхняя Вольта), большая частка насельніцтва якой заражана СНІДам.

Любая дапамога такім краінам не мае сэнсу. Ім ужо не падняцца. Адзінка, вядома, не азначае, што праз некалькі гадоў памрэ апошні прадстаўнік гэтай нацыі. Агонія можа працягвацца доўга. Яе лёс — паступовая дэградацыя, жывёльнае існаванне.

Дык вось, каэфіцыент жыццястойкасці былога СССР і суверэнных дзяржаў, якія ўтварыліся пасля яго распаду, складае 1,4. Усяго толькі невялікія чатыры крокі аддзяляюць нас ад ... агоніі. Вучоныя ўпэўнены, мы хутка іх пераадолеем і станем у адну шарэнгу з Буркіна-Фасо. Бо ў нас грошы ўкладваюцца амаль ва ўсё, але толькі не ў чалавека. У той час як у вядучых краінах свету, дзе са станам здароўя грамадства няма асаблівых праблем, найбольшыя ўкладанні ідуць менавіта сюды, у сферу аховы здароўя.

Вось такая перспектыва.

І што нам у такой сітуацыі, калі трэба крыкам крычаць, прапаноўваюць дэпутаты і ўрад? Успомніце, калі ласка.

Правільна. Многія з іх зранку да вечара пераконваюць нас у тым, што трэба як мага хутчэй інтэгравацца ў ваенны саюз з Расіяй. Дагавор аб калектыўнай бяспецы — вось што іх турбуе больш за ўсё. А не чыстае паветра, чыстыя прадукты, медыцынскае абслугоўванне і адпачынак грамадзян, каэфіцыент жыццястойкасці нацыі... Яны, мабыць, лічаць, што для поўнага шчасця нам больш за ўсё не хапае "гарачых кропак" і міжнацыянальных канфліктаў.

"Кто тороплив, кто ветренней молвы, Тот без коня вернется с поля боя или верхом без глупой головы", — напісаў вядомы паэт.

Калі б яны хоць трохі ведалі гісторыю, у іх язык не павярнуўся б гаварыць пра Дагавор аб калектыўнай бяспецы. Нашы продкі як найвялікшы запавет перадалі нам: асабліва быць асцярожнымі да Усходу.

І не выпадкова. Апошнія сем стагоддзяў галоўная небяспека нашай свабодзе зыходзіла адтуль. Незлічоныя ахвяры і пакуты таксама. Вось факты з працы "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі", якую падрыхтавалі 36 вядомых навукоўцаў.

Вялікай трагедыяй стала для Беларусі расійскае нашэсце, якое пачаў маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч. Ваенныя дзеянні працягваліся сем гадоў, і іх вынікі сучаснікі параўноўвалі з патокам. Было знішчана 52 працэнты насельніцтва Беларусі, а ў некаторых мясцінах — 70 працэнтаў. Былі разрабаваны храмы, палацы, вывезена абсталяванне, запасы жалеза, тысячы беларусаў прададзены ў рабства.

Кожны трэці беларус загінуў у развязанай Пятром І Паўночнай вайне. Мільён нашых грамадзян, альбо кожны чацвёрты, загінуў у вайне Расіі з Напалеонам. Паўтара мільёна мы не далічыліся пасля першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Сталінскі генацыд каштаваў беларускаму народу 2 мільёны жыццяў, а другая сусветная вайна, развязаная Гітлерам і Сталіным, — яшчэ 2 мільёны 250 тысяч. Многа беларусаў паклала галовы ў гарах Афганістана...

Няцяжка падлічыць, што нам прынеслі авантуры ўсходняга суседа ў розныя перыяды гісторыі. І ніводзін, заўважце, ніводзін дзеяч і дэмакрат Расіі пакуль што нават не заікнуўся, каб публічна папрасіць у Беларусі, яе народа прабачэння за незлічоныя ахвяры.

Як выбраць самы правільны шлях? Адказ на гэта важнейшае пытанне вельмі просты: засвой тое, што здзейснілі твае папярэднікі, і ідзі далей. Здавалася б, так і трэба дзейнічаць. Але не, нас зноў уцягваюць у ваенны саюз з Расіяй. Хоць ясна, што нічога, акрамя ахвяр і крыві, ён нам не прынясе. Паслухайце, якія трывожныя весткі ідуць з поўдня Расійскай Федэрацыі, з афгана-таджыкскай граніцы.

Маршал Шапашнікаў з армейскай праматой выказаўся ў друку, што без такога саюза Расія не абыдзецца. Калі яго не будзе, ёй давядзецца будаваць граніцы, новыя лініі абароны. Гэта вельмі дорага. А так пярэдні край абароны гатовы. Ён праходзіць у тым ліку і па Беларусі.

А гэта значыць, што пры чарговых ваенных авантурах усходняга суседа першы магутны ўдар зваліцца на галовы беларусаў. Гэта значыць, кладучыся спаць, мы не ўпэўнены, што заўтра прачнёмся. На які чорт нам такое жыццё?

Самая небяспечная хвароба любой нацыі — абыякавасць яе людзей. Ужо крыкам крычаць многія маці, дзеткі якіх захварэлі на чарнобыльскі рак. Але мы іх не чуем, бо нашы дзеці пакуль што не хварэюць. Чакаем, калі чарнобыльскі рак прыйдзе да нас? Тады закрычым? Але ці пачуе хто?

Ідуць на мітынгі бацькі, сынам якіх хутка ў армію. Яны пратэстуюць супраць ваеннага саюза з Расіяй. Але мы зноў маўчым. Бо нашы сыны яшчэ вучацца ў школе і ў армію ім не хутка. Чакаем, калі яны атрымаюць павестку і заўтра-паслязаўтра будуць накіраваны ў Таджыкістан?

Мы нібы забыліся пра папярэджанне мудрацоў: не чакай, калі прыйдуць па цябе. І ў гэтым галоўная трагедыя нашай нацыі. Бо як напісаў Гётэ:

*Конечный вывод мудрости земной —*
*Лишь тот достоин счастья и свободы,*
*Кто каждый день за них идет на бой.*

**Пытанне:**

**— Прадстаўнікі ўрада нярэдка гавораць аб тым, нібыта наша краіна зрабіла нейкі вялікі дыпламатычны прарыў. Ці так гэта?**

**Адказ:**

— Беларусь пакуль што не падпісала ніводнага, падкрэсліваю, ніводнага буйнамаштабнага палітычнага дагавора ні з адной з вядучых заходніх краін. Візіты высокіх дэлегацый часта нагадваюць турыстычныя паездкі. Аб якім тады прарыве гаворка? А таму і пнуцца некаторыя раздзьмуць са сваёй "мухі" слана. У народзе з такой нагоды здавён кажуць: пустую бочку заўсёды коцяць са звонам.

**Пытанне:**

**— Наша рэспубліка адмовілася ад сваёй долі пасольскай маёмасці за рубяжом былога СССР. Нібыта ўзамен гэтага Расія будзе выплачваць нашу долю даўгоў Захаду. Звону наконт таго, што такая дамоўленасць прынясе карысць рэспубліцы, было зашмат. А як на самай справе?**

**Адказ:**

— Па-мойму, названая здзелка на карысць Расіі. Пакуль што яна не выплачвае не толькі нашы даўгі, але і свае. Не выключана, Захад можа іх дараваць. А вось збудаванні, іншая пасольская маёмасць былога СССР за мяжой каштуюць вельмі дорага, і цана на іх будзе толькі расці. За што пабудуе Беларусь свае пасольствы, іншыя службы? А варта ж было проста ўзяць сваю долю.

**Пытанне:**

**— Як Беларусі выжыць у гэтым складаным свеце? Дзе яе месца ў ім?**

**Адказ:**

— У свеце даўно вядомы "правілы гульні". Яны такія: найперш мець добрыя адносіны са сваімі суседзямі і, па-другое, настойліва наводзіць кантакты з усімі, дзе толькі можна займець хоць якую выгоду.

Такім чынам, зірнём на карту Еўропы і на тое месца, якое называецца Рэспублікай Беларусь. Мы адразу заўважаем, што на ўсходзе ад нас вялізныя прыродныя рэсурсы Урала і Сібіры, а на Захадзе краіны з магутнай індустрыяй, якія маюць патрэбу ў тых багаццях. Яны моцна зацікаўлены ў супрацоўніцтве, а самы кароткі шлях паміж імі ляжыць праз Беларусь.

Не выпадкова тут ужо пралеглі з усходу на захад нафтаправод, дзве аўтастрады, чатыры чыгуначныя шляхі. Сур'ёзна вядуцца размовы аб хуткасных чыгунцы і аўтастрадзе Парыж—Масква.

Зірнём з поўначы на поўдзень. Колісь у гэтым напрамку праходзіў вядомы шлях "з варагаў у грэкі". Блізкі Усход багаты тым, у чым маюць патрэбу народы паўночнай Еўропы. А Скандынавія багата лесам, які так цэніцца на поўдні. Праз Беларусь ужо працягнуліся ў такім накірунку дзве чыгуначныя лініі і аўтастрада. Плывуць баржы па Дняпры, Прыпяці, Бугу. Цягнецца сюды нафтаправод з Блізкага Усходу. Спецыялісты звяртаюць увагу на тое, што ў нашай краіне блізка сыходзяцца прытокі Заходняй Дзвіны і Дняпра, Нёмана і Прыпяці. Упаўне лагічна злучыць іх каналамі.

Словам, Беларусь можа стаць важнейшым транспартным скрыжаваннем, ці, гаворачы больш вобразна, еўрапейскім вакзалам, і не блага жыць за кошт гэтага. Вазьміце любы вакзал. Яго калектыў не займаецца вырошчваннем буракоў, жыта, рамонтам тэлевізараў, абутку... Ён толькі абслугоўвае пасажыраў і за кошт атрыманых сродкаў някепска жыве. Тое самае ў пэўным сэнсе адносіцца і да дзяржаў. Абсалютна не абавязкова кожнай краіне вырабляць уласныя аўтамабілі, самалёты, ракеты... Ды і ці пад сілу такой невялікай дзяржаве, як наша, выпускаць першакласную тэхніку розных назваў? Трэба знайсці сваё месца ў свеце, чым мы можам быць карыснымі іншым народам. Думаецца, менавіта транспартна-дзелавым абслугоўваннем Усход—Захад, Поўнач—Поўдзень.

Дзе вакзал, там і месца дзелавых сустрэч — кірмашы, выстаўкі, перамовы... У нас ужо набірае сілы кірмаш Захад—Усход, Поўнач—Поўдзень. Ён мае ўсе магчымасці ператварыцца ў буйнейшы ўсходнееўрапейскі ці славянскі кірмаш, на які з'язджаліся б купцы і вытворцы з Еўропы, Азіі, Афрыкі.

Такім чынам, Беларусь з месца шматлікіх еўрапейскіх бойняў можа ператварыцца ў цэнтр гандлю і супрацоўніцтва. Але для гэтага патрэбны лідэры з сучасным мысленнем.

**Пытанні:**

**— Як вы лічыце, што найперш трэба рабіць, каб хутчэй інтэгравацца ў Еўропу?**

**— Нашто такія спрэчкі вакол мовы? Няхай усё застаецца, як ёсць.**

**Адказ:**

— Шлях у Еўропу ляжыць праз мову і інфармацыю. Таму варта найхутчэй усіх — школьнікаў і дарослых — пасадзіць за вывучэнне англійскай і іншых еўрапейскіх моў. З гэтага пачынаецца дарога ў свет любой краіны. А нам навязваюць рускую, каб вялікія сродкі ішлі на яе выкладанне. Гэта не што іншае, як спроба паставіць плот паміж Еўропай і Рэспублікай Беларусь.

І другое. Уладам ужо даўно пара стварыць інфармацыйнае агенцтва, якое працавала б на Захад, дзе аб Беларусі ведаюць вельмі мала.

❑

Закончыць размову хачу самым галоўным правілам Біблії. Яно такое: адносьцеся да іншых людзей так, як вы хочаце, каб яны адносіліся да вас.

Хочацца, каб менавіта гэтыя словы былі выпісаны парламентарыямі, членамі ўрада, функцыянерамі партый, усімі чытачамі...

Як і наступныя радкі паэта Яўгена Еўтушэнкі:

*Дай Бог слепцам глаза вернуть*
*И спины выпрямить горбатым.*
*Дай Бог быть Богом хоть чуть-чуть,*
*Но быть нельзя чуть-чуть распятым.*
*Дай Бог всего, всего, всего —*
*И сразу всем, чтоб не обидно.*
*Дай Бог всего, но лишь того,*
*За что потом не станет стыдно.*

